*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 459 • Сьнежань 1998 г.
Год выд. 48

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу

ХРЫСТОС РОДЗІЦЦА!

Дарагія й любасныя Браты й Сёстры!

Раджэньне Хрыстовае ня было выпадковым. Яшчэ ў сёмым сталецьці да Хрыста прарок Ісая прадказваў прыход Сына Божага, ён казаў: «Бо Дзіце нарадзілася нам, Сын Божы дадзены нам, і будзе ўлада на плячох Ягоных, і будзе названа імя Ягонае; Дзіўны Райца, Бог Дужы, Айцец Вечнасьці, Князь Міру» (Іс. 9:6-7). Ісая таксама запісаў прароцтва. Ён пісаў: «Дык вось Сам Госпад дасьць вам знак: «Вось Дзева ва ўлоньні зачне й народзіць Сына, і дадуць імя Яму Эмануэль» (Іс. 7:14).

Сьвяты дзень раджэньня Хрыстовага весьціць нам і ўсяму сьвету аб прыйсьці Божага ратунку. Гэта ня толькі дзень нашае радасьці, веры й надзеі, але й роздуму над вартасьцю раджэньня Караля каралёў, Хто прынёс новую мараль жыцьця чалавеку і заклікаў яго да высокага духовага ўзроўню. Чалавек, незалежна ад таго, у якіх абставінах ён жыве — на свабодзе ён ці ў зьняволеньні — заўсёды прагне лепшага заўтра. Моліцца за лепшую будучыню, за больш высакародны сьвет, каб ня было боязьні перад зьдзекамі й пакутамі. Каб заўсёды панавалі любоў і братэрства паміж людзькі ў духу малітвы, якую ў дзень раджэньня Хрыстовага сьпяваюць вернікі ў сваіх сьвятынях: «Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой паміж людзьмі добрае волі» (Лк. 2:14).

Але перамога дабра над злом і цемрай даецца людзям ня лёгка — чалавеку патрэбная вера, малітва, сіла духу. А калі ён пакутуе, патрэбнае міласэрдзе, спагада, дапамога — тое, што мы маем ад Ісуса Хрыста. Гэтае падтрымкі патрабуем і мы, беларусы, як на бацькаўшчыне, так і на эміграцыі. Колькі ліха, бяды ды гора зазналі нашыя людзі. Зямля, наша Бацькаўшчына — Сьвятая Беларусь таптаная і надалей пакутуе ад людзей, якія стараюцца скарыць нас. Вынішчаючы нашую сьвятую мову, нашыя звычаі, нашую гісторыю й нашую культуру.

Адкуль бярэцца гэтае ліха? У Сьвятым пісьме сказана: «І з дому гэтага, што быў найвышэйшы, кожны, хто праходзіць міма яго, зжахнецца й скажа: «За што ўчыніў так Госпад зь зямлёю гэтаю й з домам гэтым?» І скажуць: «За тое, што яны пакінулі Госпада, Бога бацькоў сваіх..., і ўхапіліся за багоў іншых, і кланяліся ім, і служылі ім, — за тое Бог навёў на іх усё гэтае ліха» (2 Летап. 7:21-22).

Хрыстос прышоў вызваліць людзей зь няволі грэху й весьці іх да вышэйшага духоўнага ўзроўню. Бязьлітасныя дыктатары намагаліся й намагаюцца зьнішчыць годнасьць чалавека як стварэньня Божага, выкараніць у ім веру ў дабрыню вечнага Бога і ўгрунтаваныя на гэтай веры прынцыпы справядлівасьці.

Госпад наш Ісус Хрыстос абяцаў нам вызваленьне, тым што пакутуюць пад прыгнётам, і мы ведаем, у Кім палёгка нашая, бо ў Дабравесьці сказана: «Прыйдзеце да Мяне ўсе спрацаваныя й абцяжаныя, і Я супакою вас. Вазьмеце ярмо Маё на сябе й навучэцеся ад Мяне: бо Я ціхі й лагоднага сэрца, і знойдзеце супакой душам вашым. Бо ярмо Маё любае й цяжар Мой лёгкі» (Мц. 11:28-30). Больш таго, Хрыстос прыйшоў адкрыць нам, што мы маем любаснага Айца нябеснага. У сьвятле гэтага адкрыцьця, хваляваньні й страх пакінуць нашыя сэрцы, бо калі Госпад клапоціцца пра птушкі нябесныя і апранае палявыя лілеі красою, дык тым больш Айцец наш нябесны ўратуе нас ад нябесьпекі. Дабравесьце вучыць нас: «Ня бойцеся, малое стада; бо Айцец ваш упадабаў даць вам валадарства» (Лк. 12:32).

Дарагія мае, заўсёды знаходзіліся ў нашым народзе людзі, якія добра ведалі, што трэба ў Бога шукаць падтрымкі, каб перанесьці ўсе цяжкасьці. Хрыстос прыйшоў да нас, каб паказаць, што рукі бясправўных слабыя, бо да нас паслана слова ратунку, бо мы ўсё спадзяваньне нашае маем у ласцы, якая дадзена нам праз нараджанага Ісуса Хрыста. Таму мы ў сіле зрабіць усе намаганьні, каб захаваць чысьціню сэрцаў нашых, напоўненых сапраўднай любоўю. Той любоўю, якой сын любіць бацьку — не ад страху, не ў спадзяваньні ўзнагароды, але ад чысьціні пачуцьця. Мецьу гэткую любоў, значыць быць вызваленымі. У Сьвятым пісьме сказана: «Таму ўсьцешылася сэрца маё, ды ўзрадаваўся язык мой; дый цела маё супачыне ў спадзяваньні, бо Ты не пакінеш душы мае ў пекле й не дасі Сьвятому Тваім у пабачыць тленьне. Ты даў мне ведаць шляхі жыцьця; Ты напоўніш мяне весялосьцю прад абліччам Тваім» (Дзеі 2:25-28).

Гэтак і нашыя душы няхай напоўняцца весялосьцю, каб вусны нашыя ў нашай роднай мове засьпявалі песьню падзякі Нараджанаму Ратаўніку нашаму. Каб чысты гук нашых малітваў быў пачуты ды абудзіў нашую Бацькаўшчыну. Бо вось паслана нам Сьвятло праўдзівае, якое прасьвятляе кожнага чалавека прыходзячага на сьвет (Ян 1:9).ю

Хрыстос Родзіцца — Яго Слаўце!

*Каляды 1998 г.*
*Таронта, Антарыё, Канада*

**Мітрапаліт Мікалай**
**Першы Ярарх БАПЦ**

## ДА ПАРЛЯМАНТАЎ І ЎРАДАЎ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ КРАІНАЎ ЭЎРОПЫ І ЗША

# ЗВАРОТ

## КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Паважаныя спадарыні й спадары. Зьвяртаемся да вас са спадзяваньнем на разуменьне і дапамогу ў нашым змаганьні за дэмакратыю, свабоду й незалежнасьць Беларусі.

25-га сьнежня 1998 года прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка і прэзыдэнт Расеі Б. Ельцын без папярэдняга інфармаваньня грамадзкасьці сваіх краінаў падпісалі ў Маскве дэклярацыю аб аб'яднаньні Беларусі і Расеі ў адзіную дзяржаву. Плянуецца чарговы незаконны рэфэрэндум аб ліквідацыі незалежнасьці Беларусі.

З пункту гледжаньня права, прапанова Лукашэнкі зьяўляецца незаконнай, а ўчынак авантурным.

Згодна Канстытуцыйнага закону аб рэфэрэндуме (1991 год), беларускае права не дазваляе выносіць на рэфэрэндум пытаньні, якія закранаюць асновы існаваньня беларускай дзяржавы, сувэрэнітэту і тэрыторыі.

Акрамя таго, ніякі рэфэрэндум ня можа праводзіцца ва ўмовах дыктатуры, адсутнасьці доступу апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі, у абставінах парушэньня правоў чалавека і наяўнасьці палітычных вязьняў у турмах, у краіне, дзе заканадаўства падменена воляй дыктатара.

З пункту гляджаньня палітычнае матывацыі — гэта ёсьць змова двух збанкрутаваных палітыкаў, дзе Ельцын хоча засьведчыць, што ён па-ранейшаму ўплывае на палітыку Расеі, а Лукашэнка — удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі і трапіць у Крэмль цаной продажы Беларусі.

Бессаромная дэклярацыя 25-га сьнежня зьяўляецца трэцяй спробай анэксаваць Беларусь (першыя дзьве былі ў 1996, 1997 гадах). Гэтая дзіўная, на першы погляд, палітыка абумоўлена ўнутранай акупацыяй Беларусі сіламі савецкага КГБ, якая пачалася ў 1994 годзе пасьля выбраньня на прэзыдэнта Беларусі агента КГБ Аляксандра Лукашэнкі.

Беларускі Народны Фронт як галоўная дэмакратычная вызвольная сіла ў краіне ўжо з 25-га сьнежня распачаў рух і акцыі пратэсту супраць спробаў ліквідаваць незалежнасьць Беларусі. Пад сьцягам супраціву авантурніцкай палітыцы анэксіі і дыктатарскіх рэфэрэндумаў, мы злучым усе апазыцыйныя дэмакратычныя і здаровыя сілы беларускага грамадзтва.

Мы бачым вялікую небясьпеку для ўсёй Эўропы у спробах Лукашэнкі цаной беларускай незалежнасьці прарвацца да прэзыдэнцкай улады ў Расеі. Расея стаіць на парозе камуна-фашысцкай дыктатуры. Выхад Лукашэнкі на расейскае палітычнае поле і ўключэньне яго ў палітычную барацьбу за Крэмль можа зрабіць магчымасьць чырвона-карычневай дыктатуры ў Расеі рэальнасьцю. Для беларусаў гэта будзе абазначаць страту незалежнасьці і нацыянальную кастастрофу. Для Эўропы — парушэньне існуючага парадку рэчаў, актывізацыю камуністычных сілаў, рэанімацыю геапалітычных канфліктаў, тэрытарыяльных праблемаў, атамнага шантажу і ядзерных аргумантаў.

Мы спадзяемся на дэмакратычную салідарнасьць з боку ўрадаў, парлямантаў і арганізацыяў заходніх краінаў, на рэальную падтрымку нашага змаганьня за свабоду і незалежнасьць Беларусі, дэмакратыю і правы чалавека.

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» просіць урады, парляманты і арганізацыі заходніх краінаў Францыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Італіі, Гішпаніі, Партугаліі, Бэльгіі, Галяндыі, Аўстрыі, Швэцыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Грэцыі, Ірляндыі, Даніі, Польшчы, Чэхіі, Вугоршчыны, Канады і ЗША:

– выступіць з палітычнымі ацэнкамі чарговай ініцыятывы Лукашэнкі-Ельцына аб аб'яднаньні Беларусі з Расеяй;

– падтрымаць апазыцыйнае змаганьне ўсяго беларускага вызвольнага руху за дэмакратыю, незалежнасьць і свабоду Беларусі;

– крэдыты, пазыкі і дапамогі, якія будуць прызначацца Расеі, выдзяляць толькі пры ўмове адмаўленьня Расеяй ад любых спробаў зьнішчыць сувэрэнітэт Беларусі і далучыць беларускую тэрыторыю да імпэрыі;

– ініцыяваць разгляд пытаньня аб пагрозе незалежнасьці Беларусі і парушэньні правоў чалавека рэжымам Лукашэнкі ў Радзе Эўропы і Арганізацыі Аб'едняных Нацыяў. Прадугледзець пры гэтым слуханьні прадстаўнікоў беларускай апазыцыі і ўсяго дэмакратычнага вызвольнага руху Беларусі.

**Зянон ПАЗЬНЯК**
**Старшыня Беларускага народнага Фронту «Адраджэньне»**

*28 сьнежня 1998 г.*
*Варшава – Менск*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

**ШАНОЎНЫЯ СУРОДЗІЧЫ!**

Шлём вам самыя цёплыя прывітаньні з нагоды Калядных сьвятаў, таксама віншуем з падыходзячым Новым годам, жадаем усім добрага здароўя, асабістага шчасьця і плённай працы на ніве беларускага Адраджэньня.

Будзем памятаць, што усе мы дзеці аднае наймілейшай да нашых сэрцаў Бацькаўшчыны — Беларусі. Пажадаем усе разам нашай краіне вольнага і шчасьлівага жыцьця!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Прэзыдэнт ЗБС «Бацькаўшчына»**
**Радзім ГАРЭЦКІ**

**Старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына»**
**Ганна СУРМАЧ**

*24.12.1998*

**Сяргей Навумчык**

# БЕЛАРУСЬ ПЕРЕД ВЫБАРАМ

Агульнае ўражаньне на ўсіх, хто наведаў у гэтым годзе Бацькаўшчыну — істотнае пагаршэньне ўзроўню жыцьця й разам з тым нежаданьне значнай часткі грамадзтва хоць як-небудзь змагацца за свае правы.

Першае — заканамерны вынік дзейнасьці Лукашэнкі зь ягоным «рынкавым сацыялізмам». Камандныя мэтады ў эканоміцы, нявыносныя ўмовы для праўпрымальнікаў, усё большая тэхнічная адсталасьць прадпрыемстваў з прычыны штучнай ізаляцыі ад перадавых тэхналёгіяў.

Другое — вынік няздольнасьці апазыцыйных палітыкаў знайсьці адэкватныя спосабы супраціву дыктатуры. Найбольшай праблемай, як і раней, застаецца ўменьне закрануць інтарэсы так званага «простага чалавека», зь якога, падабаецца гэта каму ці не, складаецца большасьць насельніцтва Беларусі і якому не цікавыя ні разважаньні пра дэмакратычныя каштоўнасьці, і пакуль яшчэ на выбарах складаюць тую «маўклівую масу», якая й вызначыць вынікі выбараў. Выглядае, што праца ў гэтым асяродзьдзі робіцца найважнейшая мэтай апазыцыі.

Канечне, пасыўнасьць грамадзтва — ня лепшы фон для палітычнае дзейнасьці. Тым ня менш, ініцыятыва далучэньня да сымбалічнага грамадзянства БНР вылілася ў масавы збор подпісаў тых, хто адданы ідэалам 25 Сакавіка і ні пры якіх умовах не пагодзіцца на зьнікненьне беларускае дзяржаўнасьці. Пакуль што гэтых подпісаў нескалькі тысячаў, аднак у сёньняшніх умовах, калі страх зноў апанаваў грамадзтвам, — гэта шмат. Прыгадаем, што да 1988 году, калі ўтварыўся Народны Фронт, актыўных прыхільнікаў нацыянальнай ідэі налічвалася нескалькі дзясяткаў, але за кароткі час беларуская ідэя ахапіла дзясяткі тысячаў, у выніку чаго была вернутая незалежнасьць. Прыкметна й тое, што самай масавай акцыяй з усіх, якія ладзіць антылукашэнкаўская апазыцыя, вось ужо трэці год застаюцца шэсьце й мітынг, прысьвечаныя ўгодкам БНР.

У будучым 1999 годзе, а менавіта 20 ліпеня, канчаюцца пацігадовыя прэзыдэнцкія паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі. Паводле Канстытуцыі 1994 году, якая (у адрозьненьне ад прэзыдэнцкага «рэфэрэндумнага» варыянту) прызнаная ў цывілізаваным сьвеце як адзіны легітымны Асноўны Закон Беларусі, выбары прэзыдэнта мусяць быць абвешчаныя менавіта ў першай палове будучага году. Праблема, аднак, у тым, што пры поўнай дзяржаўнай манаполіі на сродкі масавай інфармацыі, абсалютным кантролі над усімі дзяржаўнымі чыноўнікамі — ад калгаснага брыгадзіра да старшыні Вярхоўнага Суда — Лукашэнка можа забясьпечыць такія вынікі выбараў, якія пажадае. Пра гэта яшчэ год таму заявіў Народны Фронт, фактычна заклікаўшы дэмакратычныя сілы байкатаваць выбары, калі яны будуць праходзіць з парушэньнем дэмакратычнай працэдуры. Такім чынам, дэмакраты на Беларусі сталі перад складанай дылемаю: з аднаго боку, нельга адмаўляцца ад удзелу ў выбарах як адзінай працэдуры народнага волевыяўленьня (інакш — якія-ж яны дэмакраты?), а з другога — вынікі гэтых выбараў, зь вялікай доляй верагоднасьці будуць сфабрыкаваныя на карысьць Лукашэнкі (а гэта — яшчэ пяць гадоў дыктатуры).

Якую-ж пазыцыю павінны заняць апазыцыйныя сілы? Рэч у тым, што абсалютная ўмова дэмакратычнай працэдуры — гэта бесьперашкодны доступ усіх кандыдатаў да сродкаў масавай інфармацыі. Уласна, сам працэс выбараў не абмяжоўваецца адным галасаваньнем, а ўключае ў сябе і фармаваньне выбарчых камісіяў, і вылучэньне прэтэндэнтаў, і агітацыю. Калі апазыцыйным кандыдатам ня будзе доступу да эфіру — значыць, нельга казаць пра выкананьне дэмакратычнай працэдуры. Ці можна тады лічыць такія выбары легітымнымі? Адказ відавочны — не, гэтак-жа, як ня лічыць сусьветная супольнасьць легітымным прэзыдэнцкі рэфэрэндум 96-га году. У такім выпадку (як і тады, калі выбараў наагул ня будзе), а 20-га ліпеня Лукашэнка перастае быць легітымным прэзыдэнтам. Калі-ж ён застанецца пры ўладзе і надалей, ён ператворыцца ў чалавека, якога называюць узурпатарам, і стаўленьне да яго міжнароднай супольнасьці павінна быць адпавэдным.

Мінулы год стаў годам расчараваньня тых менскіх палітыкаў, якія праπавездавалі «самае цеснае супрацоўніцтва» з Расеяй як краінай зь вялікімі дэмакратычнымі і эканамічнымі пэрспэктывамі. За адзін жнівеньскі дзень эканоміка Расеі адкінута на гады назад. Але Крэмль усё яшчэ лічыць сябе цэнтрам сусьветнай палітыкі й выяўляе імпэрскія амбіцыі. Пры гэтым сапраўдным пляцдармам выпрабаваньня тэхналёгіяў аднаўленьня імпэрыі зрабілася Беларусь — у гэтым годзе, як ніколі, Менск наведала безьліч дэлегацыяў з Масквы самага рознага ўзроўню. Гэта былі камуністы, дэмакраты, шавіністы, славянафілы, заходнікі — прадстаўнікі самых розных, часам антаганістычных расейскіх партыяў. Але сыходзіліся яны ў адным — у адмаўленьні для Беларусі самаго права на незалежнасьць. Як і раней, яны глядзяць на Беларусь як на частку Расеі, тэрыторыю, якая проста ў выніку выпадковых абставінаў часова апынулася па-за афіцыйнай дзяржаўнай мяжой.

У сваіх імпэрскіх памкненьнях маскоўскія госьці знаходзяць шчырага спачуванца — Аляксандра Лукашэнку. Зрэшты, можна яшчэ паспрачацца, хто больш прыхільнік аднаўленьні Саюзу. У сыходзячым годзе Лукашэнка нарэшце публічна прызнаўся (прычым тройчы), што быў-бы ня супраць паўдзельнічаць у выбарах прэзыдэнта агульнае дзяржавы, але вось заканадаўства пакуль што не дазваляе гэта зрабіць. Ну, але для расейскіх «чырвоных», якія складаюць большасьць у абедзьвюх палатах расейскага парляманту, зьмяніць закон — невялікая справа. Віцэ-сьпікер Дзярждумы і адзін з камуністычных лідэраў Сяргей Бабурын неяк заявіў, што вельмі сур'ёзна разглядае варыянт вылучэньня кандыдатуры Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах Расеі. І калі сёньня нехта пачынае сьмяяцца з такога прагнозу — маўляў, ну хіба можа быць такі, як Лукашэнка, сур'эзным прэтэндэнтам? — мне прыгадваецца канец 93-га году, калі мала хто з сур'ёзных палітыкаў на Беларусі не сьмяяўся з Лукашэнкі. Зрэшты, і Гітлер сваім часам выклікаў скепсіс — а цынік вядомы. Расейскае грамадзтва сёньня ў тым стане, калі шукае не рацыянальныя, а найбольш спрошчаныя, прымітыўныя варыянты — і Лукашэнка найбольш задавальняе такому запыту грамадзтва.

Аднак рэалізацыя крамлёўскіх амбіцыяў менскага дыктатара можа адбыцца толькі пры адной умове — поўнай уніфікацыі беларускага й расейскага заканадаўства, увядзеньня падвойнага грамадзянства (чаго й дамагаецца Дзяржудма разам з лукашэнкаўскім «парлямантам») і, фактычна, ліквідацыі Беларусі як сувэрэннай дзяржавы.

Здаецца, што менавіта надыходзячы год вырашыць, ці будзе беларуская нацыя зноў загнаная ў маскоўскае паняволеньне, — ці нарэшце здолее заняць належнае месца ў сям'і эўрапейскіх народаў, права на якое вызначана сівой славутай гісторыяй.

## ПАРЫЖ

У Парыжы па запрашэньню француcкіх грамадзкіх арганізацыяў з 13 па 20 сьнежня знаходзіўся старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Ён меў спатканьне ў Міністэрстве Замежных Справаў з намесьнікам дырэктара дэпартамэнту Кантынэнтальнай Эўропы Аланам Руйарам і француcкім амбасадарам у Беларусі Бэрнардам Фасе, які ў гэты дзень атрымаў рашэньне француcкіх уладаў вярнуцца ў Менск, пасьля таго, як ён пакінуў Беларусь у сувязі са скандалам у Драздах. Размова доўжылася каля дзьвюх гадзінаў і датычылася становішча ў Беларусі.

16 сьнежня З. Пазьняк выступаў у Эўрапейскім Парляманце ў Страсбургу па запрашэньні дэпутатаў. Яго выступ закранаў пытаньні расейскай геапалітыкі, паколькі Беларусь, на думку З. Пазьняка, апынулася аб'ектам гэтай палітыкі.

«Дыктатура, зьнішчэньне законнасьці й дэмакратычных прынцыпаў у Беларусі — гэта ня толькі вынік рэваншысцкай палітыкі былых савецкіх спецслужбаў, але й вынік расейскай імперскай геапалітыкі, на якую Захад, улічваючы расейскую ядзерную зброю ды ілюзіі пра разьвіцьцё дэмакратыі ў Расеі, сьвядома заплюшчваў вочы. Прыйшоў час расплюшчыць вочы», — сказаў З. Пазьняк.

## ПРАГА

5-6 сьнежня ў Празе прайшла навукова-практычная канфэрэнцыя «Праблемы нармалізацыі клясычнага беларускага правапісу». У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел Ул. Арлоў, В. Булгакоў, В. Вячорка, П. Садоўскі, З. Санько, А. Сакалоўская, Зьм. Саўка (Менск), С. Дубавец (Вільня), Я. Максімюк, Ф. Сакалова, В. Станкевіч, С. Шупа (Прага), Л. Юрэвіч (Нью Ёрк). Быў абмеркаваны праект «Правапіс. Спроба сучаснай нармалізацыі», падрыхтаваны В. Вячоркам і С. Шупам. Праект, з улікам папраўак, унесеных на канфэрэнцыі, вырашана выдаць асобным выданьнем.

## СЫДНЕЙ

Беларускае грамадзтва Сыднэю і аколіц урачыста адзначыла 78-ыя угодкі Слуцкай Абароны ў нядзелю 29-га лістапада. Пачалася ўрачыстасьць у Гомэбушскай праваслаўнай царкве, дзе а. Ігар Хлябіч, пасьля літургіі адслужыў паніхіду па ўсіх загінуўшых, хто сталі ў абарону свайго краю, свайго народу. Хор, пад кіраўніцтвам маэстра Аўгена Падчайскага цудоўна выканаў Магутны Божа. З царквы накіраваліся у залю Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу. Тут акадэмію адкрыў кароткі даклад пра тыя даўнія падзеі, акцэнтуючы гістарычнае значэньне геройскага змаганьня случчакоў, паказваючы цяперашняму і будучым пакаленьням як здабываецца Воля і Незалежнасьць. Уставаньнем і хвілінаю цішы былі ўшанаваныя «тыя што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Былі зачытаныя прывітальныя лісты і тэлеграмы з Аўстраліі і зь Беларусі. Прафэсар-матэматык Васіль Бэрнік, зь Менску, зачытаў прывітаньне ад Старшыні Рады Згуртаваньня Беларусаў Сьвету Ганны Сурмач, ён-жа распавёў пра стан асьветы ў сучаснай Беларусі, стан распачлівы, але пацьвердзіў што расьце супраціў русыфікацыі. Др. Слава Легенчанка прадэклямавала патрыятычны верш «Беларус». Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну закончылася афіцыяльная частка.

Цяпер а. Ігар благаславіў стол і пасьля малітвы, пачаўся той прыемы занятак супольна папалудкаваць.

Паўнюсенькая заля, сяброўская атмасфэра, багаты стол, тосты размовы, песьні. Вялікая падзяка нашым руплівым гаспадынькам Мані Супрунчык, Валі Пляхоцкай, Ваньдзе Марчанка і ўсім хто ім дапамагаў. Застольле зацягнулася, бо ніхто ні сьпяшаўся дадому. Была разыграна фантавая лятарэя, ды клюбная каса крыху папоўнілася.

**М.Л.**

Пры нагодзе былі сабраныя грошы на «Беларуса»:

| | |
|---|---|
| Язэп Шкода | 200 |
| М. Лужынскі | 114 |
| С. Нарушэвіч | 100 |
| А. Бакуновіч | 60 |
| М. Бакуновіч | 60 |
| Ліза Бакуновіч | 60 |
| С. Шаўцоў | 60 |
| В. Ліпскі | 60 |
| М. Аптух | 60 |
| Г. Падчайская | 60 |
| М. Мілецкі | 60 |
| В. Русак | 60 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| М. Ляўдор | 60 |

Сябры і Управа БКГр Клюбу
вітаюць нашага руплівага працаўніка і
доўгагадовага скарбніка Клюбу

**сп. АЛЯКСАНДРА БАКУНОВІЧА**

з 80-годзьдзем жыцьця 23-га сьнежня гг.

Дарагі Аляксандар, дай Бог табе найменш 100.

## ХРОНІКА ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ У ПЭРЦЕ, АЎСТРАЛІЯ

78-ыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну 25-га лістапада былі адзначаны паўгадзінным часам беларускай радыяпраграмы з радыёстанцыі 6-ць Э-Бэ-А Эф-Эм у Пэрцэ. У сыботу, 28-га лістапада, ў залі Беларускага Народнага Дому сьвяткаваньне пачалося службай Божай, якую адправіў а. Уладзімер. Па адыграньні нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і ушанаваньня памяці хвілінай маўчаньня памерлых сяброў Б.А. у З.А., вітаў і дзякаваў прысутным за прыбыцьцё старшыня Б.А. у З.А. Міхась Раецкі малодшы.

Затым сп. Р.М. зачытаў надасланыя прынагодныя вітаньні ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, Каардынацыйнага Камітэту Беларускіх арганізацыяў Канады ды Беларускага Аб'еднаньня у Паўднёвай Аўстраліі. З дакладамі на тэму дня выступалі па-ангельску Міхась Раецкі малодшы, а па беларуску сп. Р.М. Па заканчэньні афіцыйнай часткі адбыўся пачастунак у часе якога спадарыня Марыя Мароз зьбірала грошы ад падпішчыкаў на газэту «Беларус».

Пры нагодзе ад імя прысутных на сьвяткаваньні і свайго асабістага выказваю найшчырэйшую падзяку ўсім хто спрычыніўся да падрыхтаваньня пачастунку.

*Кэнінгтон 5.12.1998* **Р.М.**

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

## ВЕСТКІ З ЭСТОНІІ

### ПОМНІК ЯНКУ СКРЫГАНУ Ў КІВІЫЛІ

У невялікі эстонскі горадКівіылі Я. Скрыган патрапіў пасьля дзесяці гадоў сталінскіх лягероў у 1948 г. Уладкаваўся бухгальтарам на тутэйшай шахце, але працаваў нядоўга — напрыканцы 1949 г. быў зноў арыштаваны за нацыяналізм. І вось праз 50 гадоў ІІ-га кастрычніка ўКівіылі стараньнямі мясцовага Згуртаваньня беларусаў БЭЗ быў адчынены помнік беларускаму пісьменьніку Я. Скрыгану. Барэльеф выканаў менскі скульптар В. Янушкевіч, а фундавала эстонская фірма «ПайдэКіві». На ўрачыстасьць прыехаў унук пісьменьніка, Юрась Скрыган. Помнік адчынілі генэральны консул Беларусі ў Таліне Янка Бондар і прадстаўнік Міністэрства культуры РБ Анатоль Бабіцкі. Прыемным стаўся тот факт, што ў горадзе да гэтага часу жыве шмат людзей, якія добра памятаюць ня толькі самога пісьменьніка, але й паехаўшых сьледам за ім у Сібір жонку Ганну й дзетак Аліка ды Галю.

**Ул. Выырас**

## ЛЁНДАН

### ГАДАВОЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ АНГЛА-БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА

31 кастрычніка ў Лёндане адбылося гадавое паседжаньне Англа-Беларускага Таварыства.

З справаздачаю пра дзейнасьць Таварыства ў 1997-98 гадох выступіў выконваючы абавязкі Старшыні сп. Гай Пікарда. Сп. Пікарда зазначыў, што, ня гледзячы на аб'ектыўныя цяжкасьці, Таварыства працягвала сваю актыўную дзейнасьць. У прыватнасьці, Таварыствам разам зь Беларускай Бібліятэкай і Згуртаваньнем Беларусаў Вялікай Брытаніі былі зарганізаваны:

– Калядная вечарына;

– вечарына памяці Натальлі Арсеньневай;

– вечарына Р. Барадуліна й беларускага мастака ў Лёндане В. Мартынчыка;

— Купальле.

Другім напрамкам дзейнасьці Таварыства было наладжваньне й падтрымка сувязей і распаўсюджваньне інфармацыі пра Беларусь у Вялікай Брытаніі.

Пасьля абмеркаваньня прамовы сп. Пікарды Таварыства павіншавала шэсьць новых сяброў, якія далучыліся летась да Таварыства.

Сп. Гай Пікарда й сакратар Таварыства сп-ня Джоан Дзейка былі перавыбраныя на наступны тэрмін.

* * *

28 лістапада беларусы Вялікай Брытаніі сьвяткавалі 78-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня. У Беларускі Цэнтар у Паўночным Лёндане прыехалі беларусы з Манчэстару, Кэмбрыджу, Хілфарду ды іншых мясьцінаў. Былі таксама госьці зь Беларусі.

Малебен па загінуўшых случаках быў адслужаны ў царкве сьв. Пятра й Паўлы айцом А. Надсанам. Акадэмія распачалася прывітальным словам старшыні Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі спадарыні Лёлі Міхалюк. З дакладам пра гісторыю Слуцкага паўстаньня выступіў сп. Павал Шаўцоў, а сп. Ігар Іваноў, які толькі прыехаў зь Беларусі, распавёў пра сьвяткаваньне ўгодкаў на Беларусі ў часы незалежнасьці.

Паэтка й перакладчыца Вера Рыч дэклямавала свае вершы, прысьвечаныя героям-случакам.

Акадэмія скончылася сьпевам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Адмыслова да гэтай падзеі ЗБВ быў падрыхтаваны чарговы нумар «Камунікату» (галоўны рэдактар — І. Лабацэвіч).

## АБВЕСТКА

М. Швэдзюк паведамляе свой новы адрас:
**33 Blackshaw Close,
Congleton, Cheshire
CW 12 3TB, England**

## ВІНШУЕМ!



Як было згадана ў папярэднім нумары, Апостальскі Візытатар для беларусаў за мяжой айцец А. Надсон адзначае 40-я ўгодкі сьвятарскае дзейнасьці. З гэтай датай яго віншуюць ня толькі вернікі-вуніяты, але ўсе беларусы, незалежна ад таго, жывуць яны на бацькаўшчыне ці па-за яе межамі.

А. Надсон нарадзіўся 8 жніўня 1926 г. у Гарадзеі ў настаўніцкай сям'і. У 1944 г. разам зь іншымі вучнямі школы Саюзу Беларускай Моладзі ў Альбэрціне пад Слонімам апынуўся ў Нямеччыне. Тут ён уступіў у армію генэрала Андэрса, у складзе якой ваяваў з фашыстамі ў Італіі, быў паранены.

А па заканчэньні вайны быў зроблены выбар, які прадвызначыў усё далейшае жыцьцё — шлях сьвятара. З тых часоў прайшло сорак гадоў, і сёньня айцец А. Надсон — адзін зь бясспрэчных лідэраў эміграцыі, дырэктар Беларускага музэю й Бібліятэкі імя Ф. Скарыны, старшыня Беларускага камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі ў Англіі. Цяжка пералічыць усё зробленае ім за гэтыя гады: навуковыя працы (а сярод іх — першая наша кніга пра Кірылу Тураўскага), пошукі й набыцьцё беларускіх старадрукаў, пераклад і выданьне рэлігійнай літаратуры. Нельга не прыгадаць і той факт, што «фінчлееўская Беларусь» сталася гасьцінным домам для маладых беларусаў, якія вучацца ў Лёндане, а таксама для ўсіх, хто прыходзіць у бібліятэку па апошнія весткі з бацькаўшчыны або ў пошуках рэдкіх архіўных дакумэнтаў ці проста ў невялікую царкву ў Доме Марыянаў, дзе двойчы на дзень служыць айцец Надсон. І мы яму жадаем служыць яшчэ шмат гадоў!

*Рэдакцыя газэты «Беларус»*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва*
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Вернікі, сябры*

## БЕЛАРУСКАЕ ПАДВОР'Е Ў НАРВЕ

Створаная каля двух гадоў таму ў Нарве суполка «Спадчына» запрасіла да сябе ў госьці майстроў зь Лепельскага «Дому рамёстваў». Аўтарам праэкту пад агульнай назвай «Беларускае падвор'е» стала старшыня «Спадчыны» Т. Караткевіч. Сапраўды, у мастацкім салёне ў самым цэнтры Нарвы паўстала беларускае падвор'е: ткацтва, вышыўка, ганчарства, жывапіс, беларускія паясы, гліняныя цацкі, кросны... Несьцерка разам з Паўлінкаю развучвалі зь дзецьмі песьні, захапіўшы нават звычайна стрыманых на пачуцьці эстонцаў. Падвор'е працавала тыдзень, даўшы магчымасьць за гэты час шматлікім наведнікам бліжэй пазнаёміцца з сапраўднаю Беларусьсю.

**В. Стэпко**

## КАНАДА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ




Вось ужо восьмы год мы вітаем у Канадзе дзяцей з Чарнобыльскіх зонаў. Восем год таму назад беларуская дыяспара ў Канадзе пастанавіла прыняць меры ў аказаньні дапамогі ахвярам Чарнобыльскай аварыі на Беларусі. Была заснаваная Канадыйская Фундацыя, атрыманы харытатыўны статус, што дало права адлічваць ахвяраваньні ад падаходнага падатку. Да гэтага часу амаль 2 тысячы дзетак наведалі краіну. Гэты год у Лёндане (Канада) адпачылі 22 маленькія беларусы. Доктар Барыс Рагуля зрабіў медычны агляд і зазначыў, што стан здароўя ў іх здавальняючы. Дзеці падчас побыту пабачылі, як можна жыць у краіне эканамічнай і агульналюдзкай свабоды. Застаецца спадзявацца, што праз пэўны час менавіта гэтыя дзеці будуць рабіць палітыку на бацькаўшчыне — і тады яны згадаюць свой канадыйскі вопыт.

*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва*
*да шырокае грамадства*
*адзначылі 80-я ўгодкі з дня нараджэньня*
***ФРАНЦІШКА БАРТУЛЯ***
*19 сьнежня 1998 г.*
*ў Грамадзкім Цэнтры*
*Беларускай Праваслаўнай Царквы*
*Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле.*




*Унівэрсытэт Сьвятога Яна ў Нью Ёрку ўзнагародзіў сваім мэдалём сп-ню Раісу Станкевіч пры нагодзе традыцыйнай гадавой сустрэчы выпускнікаў гэтага унівэрсытэту. На здымцы (з права на лева) айцец Доналд Гарынгтон, рэктар Унівэрсытэту, Раіса Станкевіч і сп. Люіс Конасэка, агульнаведамы заслужаны амэрыканскі пэдагог і трэнер.*

## ШМАТКУЛЬТУРНЫ ФЭСТ У БЭРЫ




*Раіса Жук-Грышкевіч, арганізатар і праваднік беларускай экспазыцыі*

18 кастрычніка ў канадыйскім горадзе Бэры адбыўся традыцыйны фэст, які меў на мэце прадставіць шматкультурны характар Канады. Мэтай удзелу беларусаў у такіх фэстах ёсьць інфармаваньне канадыйскага грамадзтва аб Беларусі, яе культуры й гісторыі. Вялікая, выкананая мастачкай Івонкай Сурвіллай да сьвяткаваньня тысячагодзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі Пагоня і бел-чырвона-белы сьцяг узгалаўлялі ў Таронта беларускі стэнд, цэнтральнае месца якога было аддадзена вялікаму, выкананаму ў 1985 г. І. Сурвіллай партрэту князёўны Прадславы — сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Тут і каляровая фатаграфія Крыжа Сьв. Еўфрасіньні Полацкай ды паштоўкі Еўфрасінеўскага памятнага Крыжа ў Прошчы Паўночна-Амэрыканскіх пакутнікаў у Мідлянд, Онтарыё. Далей ішлі кнігі пра мастацтва Беларусі, нашыя іконы, мастацкія вырабы з саломкі, слуцкі пояс, вышываны Юліяй Андрусышынай, альбом са здымкамі зь беларускага павільёну «Менск» у Таронта, мапы Беларусі й кнігі, зь якіх шматлікія наведнікі маглі даведацца пра гісторыю нашай Бацькаўшчыны.

## АДЗНАЧЭНЬНЕ СЛУЦКАГА ЧЫНУ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ



Беларуская кліўлендская калёнія адзначыла Слуцкія ўгодкі 6-га сьнежня у Царкоўнай залі парафіі сьв. Маці Жыровіцкае.

Божая служба ды паніхіда па змагарах за Беларусь былі адслужаныя айцамі М. Страпком і Дз. Беленькім.

Пасьля кароткага падсілкаваньня ў царкоўнай залі, благаслаўленьня прысутным айцом М. Страпком, пачалася ўрачыстая акадэмія кіраваная сп. Янкам Ханенкам. Па адпяяньні амэрыканскага гімну, спадарыні Ольга Дубаневіч і Ірэна Врэціц усклалі вянок на сымбалічнай магіле Случчака. Грунтоўна апрацаваны, падмацаваны аўтарытэтнымі дакумэнтамі, рэфэрат аб прабегу Слуцкага Фронту БНР, прачытаў сп. Мікола Прускі. Дакладчык падкрэсьліў, што чын случчакоў — гэта адна з зорак першае вялічыні на шляху адраджэньня Беларускае Дзяржаўнасьці.

У мастацкай частцы праграмы выступаў ведамы кліўлендскі хор Васількі пад кіраўніцтвам сп. Алеся Янкоўскага. Хору выдатна акампаніяваў сп. Хведар Паўлавец. Заключным акордам акадэміі быў наш нацыянальны гім «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Бязсумлеўна, сёлетняя ўрачыстасьць у Кліўлендзе прысьвечаная ўгодкам Слуцкага Чыну была паважным успамінам Случчаком.

**Васіль Мельяновіч**
**Кастусь Калоша**

*Сучасная літаратура беларускай эміграцыі*

## ЯНКА ЮХНАВЕЦ

*Алесь Разанаў нарадзіўся ў 1947 годзе на Беларусі. Сёньня гэта знаны паэт, і ягоны ўплыў на сучасную літаратуру не заўважыць немагчыма. Выдаюцца паэтавы кнігі, пра яго пішуць дысэртацыі, гавораць пра вучняў Разанава. Усё слушна.*

*У тым самым 1947 г. у лягерох ДП у Нямеччыне свой першы верш напісаў ды зьмясьціў у часапісе «Шыпшына» Янка Юхнавец. і вось міжволі думаецца: а як-бы разьвівалася беларуская паэзыя, каб напісанае ім трапіла ў свой час на Беларусь, да чытача, тыя самыя зборнікі «Калюмбы» ці «Дань майго часу». Або «Запіскі й зацемкі» — плён шматгадовых назіраньняў ды роздумаў. Або пераклады з Эзры Паўнда ці Т. Эліёта. Відавочна, па-іншаму, тут сумневу няма. Янка Юхнавец, як бадай ніхто іншы, нягледзячы на паважны век — ня толькі чалавечы, але й пісьменьніцкі — здольны да самаразьвіцьця, да пошукаў новых жанраў і тэмаў. Відаць, гэтая здольнасьць заставацца маладым адбіваецца ня толькі ва ўласных творах, але й на чытацкай прыязнасьці да маладых — з Таварыства Вольных Літаратараў, да аўтараўпачаткоўцаў з часапісу «Першацьвет».*

*Але шкадуеш ня толькі пра страчаны час, пошукі якога марныя, але й пра час цяперашні. Бо па-ранейшаму творы дзядзькі Юхнаўца ведамыя адно вузкаму колу чытачоў, якія залічваюць яго ў паэты, забываючыся і на драматургію, і на прозу. А паэтава проза — гэта ня толькі апавяданьні, друкаваныя ў свой час у «Конаднях», «Баявой Ускалосі», «Беларускай Думцы». Гэта й вялікі філязофскі раман «Яно», напісаны ў 50-х і толькі зараз рыхтуемы аўтарам да друку. Падзеі рамана разгортваюцца на акупаванай Беларусі, але не яны прыцягваюць аўтарскую ўвагу, а — чалавек у гэтых падзеях, тое «яно», што сядзіць у кожным з нас.*

*Сёньня мы прапануўваем увазе чытачоў першы разьдзел рамана.*

**Л. Юрэвіч**

## Янка Юхнавец. *ЯНО*

Дзед Цярэм апрануў вышытую кашулю й падперазаўся белым утканым чырвонымі лукаткаміі поясам, а тады, узяўшы чачотавы кіёк з качарэжніку, выйшаў на двор. Зык завесаў у дзьвярох сенцаў каротка хліпнуў на прасьцягу сялібы. На прывязі просьбна запіскаў калматы сабака-вадаплаў. Цярэм не адразу адвязаў яго: узіраўся праз знаёмыя прагаліны соснаў на дарогу зь Менску. У прагалінах дрэў заўсёды быў відзен далекаваты пачатак дарогі ад ускрайку сталіцы.

Восеньскай парой у сонечныя дні Цярэм любіў назіраць за гэтым ушчалопкам дарогі. Яна прасьцілалася па роўнаядзі ўзгорку і аб'ўуляла быццам на далоні кожны рух цялегі, аўтамашыны й чалавека. Восеняй якраз найпрыгажэй атаяўляўся жывы малюнак паміж рамамі з калыхлівых хвояў, што ахвотна ды ўзьніміста, у шырацс свайго росту, пакратваліся пад подзьмухам рэдкага, сьцюдзёнаватага ветру.

У канцох дзён верасьня ўздоўж дарогі на вельмі разьбежыстым поплаве дымілася туманістая куравень. Ейную цьвялістасьць не высушваў і не разьдзьмухваў восеньскі сухавей, наадварот, апоўдзен яна да зоркіх Цярэмавых вочаў даносіла зіхаценьне павуцінак, а з заходам сонца разлогі паплавоў наўпрасткі пад ускраіны Менску залаціліся. У гэткую пору Цярэм жыў сумнай уявай незразумелага жыцьця. Старыя, але яшчэ здаровыя грудзі захопна ўздыхвалі паветра, памагалі сэрцу ўзьнімаць ды апускаць палову цела. Тую палову, якая да самай сьмерці адданая хваляваньню, нянавісьці, любові й спакою, тую, усяляк асягнутую суладзь шорханьня чалавека ў жыцьці.

Чалавечымі вачамі дзед Цярэм глядзеў на заўсёднае і уторнае, і яно аддавалася яму толькі выпадлам падасьпеласьці здары. Бо прынукваць сябе знайсьці прыгожыя часуны выключна дзеля чароўнасьці, не жадаў. Ён ведаў, што некалі прыйдуць гэтыя часіны, і ён апынецца перад імі няўхільна й пажадана, і будзе іх любіць, дасягаць, прынамсі, як назіраньне прасьцінку дарогі ў сонечныя дні восеняй. А сумныя ўявы незразумелага жыцьця дзед Цярэм усяляў у думкі адно для прыемнасьці перабраць гады свайго жыцьця, і яно зрабілася ягоным прызвычаем. Бадай, як у кожнага, у яго была глухая скрабіна асталапеньня, ды ён, што не бывае з кожным, разумеў яе ўсякую пагожасьць — стомны ад яе апыноўваўся з аголенай душой. Але ўсе-такі жадаў і глядзеў на гэтую цьмяна асьвечаную сьцяжыну душы як на прыгажосьць пасьля выйсьця з падзямельляў, і як на быццам упершыню, незнарокам спатканую яе ў часе блуканьня.

У зіхаценьні сонечным, на імжыстай істужцы дарогі паказалася будкай брычка. Цярэм зірнуў на яе. Борзда падышоў да сабакі, паказытаў яго каля вушэй, адвязаў з прывязі.

– Хадзем, ужо пара... хлеб аддадзім, — гаварыў Цярэм сабаку. і той бы разумеў гаспадараву гутарку, падскокваў радасна, зусім нязлоўна, хваціста спраўляўся ў падскоку аблізваць Цярэмаву бараду й шчокі. Вочы сабакі пранырыста адгадвалі Цярэмаў наўмер.

– Утаймуйся, стары зваядыш! Не стамляй мяне! — папрасіў Цярэм і пакрочыў хутчэй да селявога пляцу.

Сабака супакоіўся, марудным бегам раўняўся з хадой Цярэма. За гусьцінёй хвояў яшчэ не віднеліся стрэхі сяла, але ў моўчнасьць сьценяў хвой і на жвірыстую, уежджаную калёсамі дарогу, па якой сяляне езьдзілі да лесу, і на ўтаптаную ім-жа, Цярэмам, за колькі дзясяткаў год на ўзбочыне сьцяжынку даносіліся ўскрыкі дзяцей і глухі сьмех дарослых. Сяльчане ўжо даўно сабраліся на сьцяж каля старой сьвятыні. Сьвятыні там не было, але памяць пра сьвятое месца казаў дубовы пачарнелы крыж.. Маладзейшыя — апранутыя ледзь-ледзь па-сьвяточнаму, а старэйшыя жанкі й мужчыны зышліся ў звычайным буднім апраньні. Яны, усе апаленыя летнім сонцам, жартавалі паміж сабой, расказвалі штосьці-небудзь якраз адпаведнае да выпадку дня. Сонца над імі яшчэ заставалася ў сваёй здаровай прамяністасьці й цеплыні. Дзяўчаты, як быццам пошчак гэтых праменьняў, беклапотна адклікаліся кожнаму хлапцу. Яны, маладыя, не разумелі добра, дзеля чаго іх неспакмета стрымоўваюць у гурме пажылыя аднасяльчане. Калі-б усё задуманае зьявілася ў іхных галовах, яны-б напэўна не зрабілі гэтага, а калі-б і зрабілі, дык сонечная пусьціня нябёсаў і сам сьцяж, дзе яны стаяць, папаўзлі-б, зьліліся-б у адну песьню сэрцаў, выкрутлівых знакаў на зямлі ад абцасаў ці нават ад босых пяткаў — ускіпело-б яно цепрасьцяй танцу.

Дзед Цярэм выйшаў зь ляснога прамежку і яшчэ раз уторна зірнуў на дарогу. Кагадзе на палове адлегласьці шляху да сяла ён добра бачыў брычку й вазара з круціста падціснутымі пад сябе нагамі. Белы й чорны коні імкнулі ў суладнай наўзавадзе. Бялясты пыл расьсьцілаўся за брычкай, як скомканая ветрам хмара перад навальніцай, і ў чыстай бяздоннасьці небасхілу, здаецца, рос рухлівай жменяй імкненьня, падтакваў існаваньню ўшчалопку адносінаў да тых, хто сабраўся на пляцы селявым і чакаў іх на спатканьне.

Дзед Цярэм прыплюснуў вочы, але яснае надвор'е ня выдала затуленых у брычцы. Адзадзя вазара вісела рудаватая коўдра й завешвала ўваход да сярэдзіны.

– Пачакай, Мурза, хай едуць, — папярэдзіў ён сабаку й сеў на абочыне дарогі. Мурза расьцягнуўся каля ягоных ног і пазіраў у бок грукату брычкі.

– Мы потым падыдзем, калі пачнецца, — зноў зьвярнуўся Цярэм да сабакі й пагладзіў яго каля вушэй.

Неўзабаве, аблепленая, чорная ад усялячыны, зь няроўнымі калясамі, праймкнула наводдалі брычка. Цярэм памалу з сабакам пайшоў усьлед ёй. На вярбінах і таполях паўзбоч вуліцы нясуцішна крычэлі шпакі перад адлётам у вырай, і званіста вуркаталі індыкі на дзядзінцах.

Цярэм незнарокам падумаў пра гэтае вольнае жыцьцё істоты, чымсьці пра ўсё тое, што адбудзецца на селявым сьцяжы. Думкі гаратліва круціліся ў галаве бяз тлумачэньня, запальвалі ягоную самалюбівасьць.

Ён прыпыніўся на першых кроках прыцішага сьцяжу. Бы зь цікавасьці глянуў на постаці гасьцей, што некалькі часінаў дачасу прыехалі й вылезьлі з брычкі. іх было трое.. Цярэм не пайшоў да астатніх. Думка, што была зь ім неразлучна ад пачатку вайны, падмовіла не далучацца ад аднасяльчанаў. і ён, ня ўважаючы на завіхныя маханьні рук сялян з ускрайку гурмы, пайшоў адтуль..

На сьцяжы, пасьля спатканьня бышага палкоўніка з хлебам і соляй, і калі мінула ўрэплівае напружаньне гасьцінасьці ды цікавага агляданьня іх, сяльчане заварушыліся. Наступнай чарадою́кай пашаноты была прамова старшыні мясцовае воласьці. Старшыня ў прывітаньні пажадаў адчуць шчасьлівае будучае. Саракапяцігадовы палкоўнік падзякаваў сяльчанам трыма разьдзеленымі словамі звычайнай падзякі:

Працяг на б. 6

# МАЛАВЯДОМАЯ НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

***(Са збораў Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане)***

*Гартаем дописаў лісткі,*
*У пальцы хукаем —*
*І пішам.*
*Мауляў на руні каласкі,*
*Радкамі прарастае ціша.*
*Расьце і каласіцца верш,*
*А сэрцу радасна і зянна.*
*Твае, мае — жыло, жыве*
*Непакананае, да сяньня.*
*(Зь верша «В. Жук-Грышкевічу»)*

Збор паэзіі Н. Арсеньневай «Між берагамі», выдадзены ў БІНІМе ў 1979 г., увабраў у сябе багата з напісанага слынная паэткай, але далёка ня ўсё. Зрэшты, такой мэты й ня ставілася. Але школа, што ўсе пазьнейшыя дасьледчыкі ейнай творчасьці, укладальнікі новых зборнікаў пайшлі па шляху найменшага супраціву, дазволіўшы сабе пошукавую працу абмежаваць кнігай, выдадзенай амаль 20 год таму. Інакш як растлумачыць той факт, што не цытуецца, не згадваецца першы друкаваны верш Н. Арсеньневай, зьмешчаны ў першым нумары «Нашай Нівы» (28 кастрычніка 1920 г.) «Мой родны край»:

*Паўдзённы край — мой родны край,*
*Але яго я і ня знаю...*
*К далёкім мора берагом*
*Я толькі ў думках залятаю...*
*Ні рож зьдзічэлых Аджыкенту,*
*Ні гордых, мглой акрытых гор,*
*Ні векавечнай песьні мора,*
*Што вабе ў сіні свой простор, –*
*Нічога гэтага ня знаю,*
*А палюбіла край другі:*
*Няма там гор, няма там мора,*
*Але я зьведала там гора,*
*Там сіла вырасла душы!*

У 1922 г. у Беларускім Выдавецкім Таварыстве была выдадзена кніга Ўлада Гуткоўскага «Сурдут і сярмяга». Драматычны абразок зь песьнямі і танцамі ў трох актах» у перакладзе А. Абрамовіча. Дык вось, пераклад сьпеваў у гэтым абразку, як пазначана на тытуле, зрабіла Наталка Арсеньнева. Дарэчы, гэты твор абсалютна прыдатны для сёньняшняга сцэнічнага ўвасабленьня. Як і лібрэта опэр «Усяслаў Чарадзей» і «Лясное возера», рукапісы якіх, як і клявір, што зрабіў Мікола Куліковіч, захоўваюцца ў Лёндане. Яны й праз 50 гадоў пасьля напісаньня гучаць больш сучасна за багата якія п'есы, што друкуюцца сёньня на Беларусі. Любое менскае ці полацкае выданьне («Крыніца», «Тэатральная Творчасьць», «Спадчына», «Калосье») мела-б за гонар сабе й зрабіла-б добрую справу нашай літаратуры, выдрукаваўшы гэтыя тэксты.

**Л.Ю.**

## ПОШТА

*Добры дзень, паважаныя супрацоўнікі «Беларуса». Дзякуй і здароўя Вам за тое, што не запамяталі мяне ў гаротнае старонцы, мае любае зямельцы Беларусі. Хачу Вам сказаць, што газэту «Беларус» знаюць на Ляхаўшчыне, любяць і чакаюць, а калі дадаць, што мінулае сьвятафэст у Грушаўцы прайшло на задавальняючым узроўні, то большасьць цяперашніх прыхільнікаў вашае працы пазнаёмілася з вашай газэтай і там. Шчыра кажучы, я меў некаторую нэрвовасьць, калі на сьвята завіталі міліцыянты й вертыкальшчыкі, аднак усё прайшло па-тутэйшаму, з музыкаю й чаркаю. Час сеяць зерне любові да сваёй роднай старонкі прайшоў, сёньня ўжо большасьць беларусаў становіча глядзіць на сапраўдную незалежнасьць ад расейскага боку. Фэст паказаў, што й сяляне й мясцовая інтэлігенцыя мае патрэбу ў друкаваным слове.*

**Міхал Турыянскі**



*Віталь Скалабан расказвае гасьцям Фэсту пра збор старадрукаў М. Турыянскага*

## АБВЕСТКА

Адрас Архіву Рады БНР:
**204 Ave. N, Brooklyn, NY 11223**

## БЕЛАРУСКА — МАЛОДШАЯ КАРАЛЕВА

Пры канцы навучальнага году ў сярэдніх школах г. Трой, штат Мічыган, адбыліся выбары малодшай каралевы. Выбраная была спадарчыня Крыстэн Судэрлэнд, дачка др. Марыі Плескач і др. Стывэна Судэрлэнд.




*Тацьцяна й Васіль Плескачы з унучкаю — каралеваю Крыстэн Судэрлэнд.*

## АБВЕСТКА

### ЗВАРОТ ДА БЫЛЫХ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

Дарагія сябры!

Вам добра вядомы цяжкі матар'яльны ды й духовы стан жыхарства на бацькаўшчыне. У ня менш цяжкім становішчы знаходзяцца на Беларусі скаўцкія адзінкі: у іх няма сродкаў на правядзеньне лягероў, не хапае мэтадычнае літаратуры, дапаможнікаў. Відавочна, што наш абавязак — дапамагчы скаўцкім арганізацыям на бацькаўшчыне. Давайце прынамсі матар'яльна дапаможам нашым малодшым пасьлядоўнікам, нашым спадкаемцам. Гэтым мы яшчэ раз прыпомнім, што мы — Напагатове!

За ініцыятыўную групу былых беларускіх скаўтаў

**Люда Махнюк**

## СМАЧНЫ КУТОЧАК

*Найперш дала яна капусту,*
*Тады са скваркамі кулеш,*
*На малацэ крупеню густу*
*Дае ўволю, толькі еш.*
*І з пастаялкай жур сьцюдзёны,*
*А з кашы сала аж цякло,*
*Ды і гусяціны смажонай*
*Уволю ўсім багам было.*
*Як унясла-ж на стол каўбасы,*
*Бліны аўсяныя ў рашаце,*
*Аж сьлінкі пацяклі ў Тараса,*
*І забурчала ў жываце.*

**«Тарас на Парнасе»**

### Парнаскі кулеш

*Пшано – 1 шклянка*
*Цыбуля – 2-3 ладныя галоўкі*
*1-2 бульбіны*
*1-2 морковы*
*1 шклянка малака*
*150-200 гр мяса*
*Соль, перац, галоўку часноку, адзін карэньчык пятрушкі*
*Прыправы – на густ і фантазыю кухара*

Пшонные крупы прамыць халоднай вадой, усыпаць у падсолены кіпецень, варыць на моцным агні ў вялікай вадзе хвілін 15, потым ваду зьліць — да таго, як крупа пачне разварвацца. Крупу прамыць халоднай вадой, дадаць крыху сьвежага кіпетню, дробнапарэзаную цыбулю й моркву, парэзаную маленькімі кавалачкамі сырую бульбу або звараную й патоўчаную бульбу. Варыць на слабым агні, пакуль вада ня выпарыцца, а крупа разварыцца.

Уліць шклянку гарачага (абавязкова гарачага!) малака (на шклянку крупы), добра вымешаць і давесьці да кіпеньня.

Дадаць падсмажанага мяса й прыправы і, падсаліўшы, памешваючы, варыць на слабым агні да гатоўнасьці. Каштаваць кулеш на смак трэба на астуджанай лыжцы.

Каб кулеш быў смачны, трэба шчодра заправіць яго дробнапарэзанымі кавалчкамі мяса з тлушчам, можна й хатняй каўбасой; найлепш вэнджаная сьвініна. Не шкадаваць цыбулі! І — няма лепшай ежы ўзімку.

## НОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

### «АДЗІНАЕ НА ПАТРЭБУ»

*Зборнік рэлігійных гутарак а. Канстанціна Бандарука*

У новай кнізе гутарак на рэлігійныя тэмы а. Канстанцін Бандарук займаецца самымі рознымі пытаньнямі. «Гэта перш-наперш, — кажа ён ва ўступе да зборніка, — камэнтары на тэму 10-ці запаветаў, якія, на маю думку, заўсёды актуальныя, якія быццам-бы ведаем, але нагадваць іх трэба бясконца. Ёсьць гутаркі на тэмы евангельскіх нядзельных чытаньняў і, нарэшце, спроба адказаць на некаторыя спрэчныя або супарэчлівыя пытаньні, якія ўзьнікаюць перад вернікамі».

Акуртна выдадзеная кніга (202 с. друку), удала дапаўняе папярэдні зборнік падобных гутарак а. Канстанціна, *Праўда нас вызваліць*, якія выйшаў летась у тэй-жа друкарні ў Беластоку. Айцец Канстанцін, які скончыў Духоўную сэмінарыю й Тэалягічную акадэмію ў Варшаве і які вызначаецца літаратурнымі здольнасьцямі, выдатна кваліфікаваны развяжаць на тэму складаных абставінаў чалавечага жыцьця й дапамагаць знаходзіць дарогу ў нялёгкіх часамі ўмовах сучаснага няпростага бытаваньня.

Новую кнігу можна набыць (цана, уключна зь перасылкай — 12 дал.), пішучы на наступны адрас:

Mrs. N. Zaprudnik
42 Deerfield Road
Somerset, NJ 08873

## Я. Юхнавец. ЯНО

(Працяг з б. 5)

– Шчыра... дзякую... вам...

Цісканўў руку старшыні воласьці й палез зноў да залапленай, вельмі апраўдна збудаванай будкі на брычцы. На ім была паўвайсковая вопратка на польскі лад. і калі-б ён гутарыў нядобра па-беларуску, яго напэўна-б залічылі да палякаў, хоць гэтакі намер у некаторых ужо зьяўляўся й моўк у скабках грудзей.

Палкоўнікава захаваньне было асаблівае — збытліва выхаванае. Вочы стрыгалі празорыста па кожным, і ў іх сьвяцілася дацэтлівасьць: што яно значыць? Гэтыя дзьве павярхоўныя якасьці не выдавалі й не акуратцілі яго перад панурым позіркам сялян. Але палкоўнік найбольш губляў норму суладнасьці ў хадзе: ступаў бадай балючымі ранамі на ступнях — мэханічна-цудоўна, не дазваляў злавіць адным зіркам ягоны поступ. Ён бы палохаўся стаць на зямлю цьвярдзістай хадзьбой, усё нейк вывертліва даторкваўся яе, як на сталёвых спругах.

А двух жанчынаў, што разам зь ім прыехалі, сяльчане прылучылі да ягоных дачок. Адна была высокая, поўная і на схоп вока каля 22 год старасьці. Яе сьціснутыя вусны чамусьці пазнаваліся азначальнем знаходжаньня ў сэрцы моўкнай пакуты й не пераможытай, а нясёнай далей у посапе дзён. Не было й ятранасьці ў яе вялікіх вачох — яны, мабыць, зжыліся з часам, пакідаючы толькі процьвень сіне-азяровых зрэнак. Другая была, як называюць на Беларусі, дзяўчаро, і адно ведала насуплена безраздумна пазіраць на ўсіх і на ўсё аднолькава.

Жанчыны таксама ўлезьлі да будкі. Яны адзначыліся, як і палкоўнік, сьціпласьцяй, адмовілі старшыні воласьці падсадзіць іх на брычку. Вазар асьцярожна сеў на сваё мізэрнае, бы гняздо, месца, стрымна прытрымаў ногі, што ледзь не ўпіраліся хвастоў коняў, сьцебануў паўразмашыста па самых іхных сярэдзінах, паехаў паўз расступіўшыхся сялян і, як толькі абмінуў натоўп, зноў падагнуў пад сябе стомленыя ад напругі ногі, яшчэ раз ямчэй размахнуўся пугай, папрастаў коней прысадай на другі канец сяла да сялібы сярод старых ліпаў. Дарогу ён не забыўся, ведаў яе даўно. Ён вяртаўся туды, бы да свайго роднага кутка.

**СЭРДЭЧНА ВІНШУЕМ НАШЫХ СЯБРОЎ І ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ «БЕЛАРУСА», А ТАКСАМА БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА Ў ЗАМЕЖЖЫ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ ДЫ ЖАДАЕМ ШЧАСЬЛІВАГА, ЗДАРОВАГА Й ПЛЁННАГА НОВАГА 1999 ГОДУ**

Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Канадыйскі сэктар Рады БНР
Сэктар Рады БНР у штаце Нью Джэрзі
Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва
Управа Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага
Галоўная Ўправа Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі
Галоўная Ўправа Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Амэрыцы
Згуртаваньне Беларусаў Канады
Рэдакцыя *Belarusian Review*
Управа аддзелу БАЗА ў штаце Нью Джэрзі
Управа аддзелу БАЗА ў штаце Нью Ёрк
Управа парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Н. Дж.
Парафіяльная рада й духавенства парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта



**УПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ГРАМАДЗКАГА ЦЭНТРУ «ПОЛАЦАК» У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сябром*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1999 ГОДУ**





**ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА З ПРЫЧТАМ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ БАПЦ У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў, прыяцеляў і беларусаў на Бацькаўшчыне*
**З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ**
*і жадае добрага здароўя, шмат шчасьця*
**Ў НОВЫМ 1999 ГОДЗЕ**





**КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЖАНОЧАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сяброўкам і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1999 ГОДУ**





**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*шчыра вітае ўсіх сяброў і супрацоўнікаў з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае добрага здароўя й посьпехаў у*
**НОВЫМ 1999 ГОДЗЕ**



**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ**
*жадае ўсім сваім сябром і прыяцелям на эміграцыіі і на Бацькаўшчыне*



**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1999 ГОДУ**



**Ад імя ЗБВБ**
**Лёля Міхалюк, Старшыня**

## *ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ І НАВАГОДНІХ СЬВЯТКАВАНЬНЯЎ*

*СВАЯКОМ, СЯБРАМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЗЫЧАЦЬ*

*Абрамчык Анна й Мікола*
*Азарка Марыя, Янка і Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка, Хрыстафор і Марк*
*Акула Кастусь зь сям'ёй*
*Андрусышыны Юля, Павал зь сям'ёй*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга, дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Арцюх Ляля і Язэп*
*Бартуль Вера, Францішзь сям'ёй*
*Бельмач Лена, Володзя, Янка й Пятро*
*Блецка Ўладзімер*
*Бяленіс Людвіка*
*Верабей Марыя й Кастусь*
*Вініцкія Кацярына і Яраслаў*
*Ганько Марыя й Мікола*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й дочкі Элеанора й Рагнеда з сем'ямі*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Жэня, Алег, Юліян і Тамаш*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса й Генадзь малодшы*
*Жамойда Сымон, Тэця й Рагнеда*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Жучка Янка зь сям'ёй*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Завістовіч Расьціслаў зь сям'ёй*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Надзя і Янка*
*Запруднік Вера*
*Кавалёвы Клава й Лявон зь сям'ёй*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта і Юля зь сям'ёй*
*Кажаневіч Хведар з сям'ёй*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна і Андрэй*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Данучя й Міхась малодшы*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка з сынамі Алесем, Андрэем і Антонам*
*Клакоцкі Марат зь сям'ёй*
*Кольба Тамара і Аляксандр*
*Корчык Люба і Юрка*
*Кулеш Павал зь сям'ёй, Дзідзя, Сьцяпан, Адам Гурыны*
*Латушкін Мікола*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля й Стывэн*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Машанскі Уладзімір*
*Мельяновіч Далорэс і Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Мілешыч-Чарнэцкая Гертруда*
*Міхалюк Лёля*
*Міцкевіч Алесь*
*Мурог Сюзана й Лявон зь сям'ёй*
*Найдзюк Юзэфа з сем'ёй*
*Няпейн Надзя і Аляксандар*
*Норык Кінуся й Лёня*
*Орса-Романа Алла з сям'ёй*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Пруская Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Ракуць Ліда й Валодзя*
*Рудовіч*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна і Аляксандар*
*Сям'я Стагановічаў*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына і Адоль*
*Сурвілла Івонка, Ганна й Паўлінка зь сем'ямі*
*Стус Валянтына й Багдан*
*Сьнежка Тамара й Мікола*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Трыгубовіч Сяргей*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Тур Ліля, Віктар і Аляксандар, Мікола*
*Ханенка Ліда, Янка і Янка малодша*
*Ханяўка Марыя, дачка Рагнеда і ўнук Даніла*
*Чарнэцкі Юрка*
*Шукелайць Антон*
*Шчэцька Алла й Васіль*
*Яновіч Валентына і Янка*
*Яраховіч Оля, Астап, Андрэй і Даніла*

**ЭКУМЭНІЧНЫ АМЭРЫКАНСКІ СУСЬВЕТЫ ПАТРЫЯРХАТ**

**З нагоды Сьвята Нараджэньня Хрыстова віншуе прыхільнікаў і вернікаў у Беларусі й жадае вытрываласьці на Божай ніве.**



**LUKJAN METAL PRODUCTS, INC.**
P.O. Box 357
Industry Street
Conneaut, OH 44030

*Сям'я Лук'янчыкаў — Натальля, Анатоль і Лена — жадаюць сваім сябрам і знаёмым вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году!*





**КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сябром на эміграцыі і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1999 ГОДУ**



## СЬВ. ПАМ. ІВАН АЎДЗЕЙ (27.02.1905 – 19.11.1998)



26 сьнежня ў Саўт-Рывэры беларуская грамада разьвіталася з сьв. пам. Іванам Аўдзеям, які апошнімі гадамі жыў у Нямеччыне, дзе й памёр, пакінуўшы ў глыбокім смутку жонку Тамару, дачку Аляксандру зь сям'ёй, пляменьнікаў і пляменьніц. Нябожчык нарадзіўся ў Стоўпцах, быў сьведамым беларусам і дзейным працаўнікам на грамадзкай ніве, чалавекам абыходлівым і дабразычлівым.

Паніхіду у пахавальным доме Малішэйскага і абрад пахаваньня на беларускім могільніку ў Саўт-Рывэры адслужыў а. Мечаслаў Брынкевіч, настаяцель царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай. За памінальным абедам успамінамі пра нябожчыка падзяліліся сп.сп. Мікалай Сіцько і Віталі Цярпіцкі.

## АДЗНАЧЭНЬНЕ СЛУЦКІХ УГОДКАЎ У ГАЙЛЯНД ПАРКУ

Па традыцыі у суботу 21 лістапада сп. Янка Азарка з прадстаўнікамі вэтэранскае арганізацыі — А. Суботы, А. Няпеіна ды Г. Дубягі — узлажылі вянок на беларускіх магілках у Іст Брансуіку, а таксама паставілі бел-чырвона-белыя сьцяжкі на магілках былых жаўнераў беларускіх вайсковых адзінак ды радных БНР.

Акадэмія прысьвечаная Слуцкаму Чыну адбылася ў нядзелю 22 лістапада у царкоўнай залі парафіі Сьв. Маці Жыровіцкае. Даклад аб падзеях на случчыне прачытаў сп. Сяргей Навумчык.

Адзначэньне ўгодкаў было арганізаванае Беларускімі Вэтэранамі пры выдатнай дапамозе парафіі.

## ПОШУКІ СВАЯКОЎ

Сваякі зь беларускага гораду Старобіна Юры ды Тацьцяна Януковічы шукаюць Янку, Васіля, Вольгу Ключановічаў, бацька якіх, Аляксандар Ключановіч, сын Васіля, нарадзіўся каля 1880 г., з'ехаў у ЗША ў 1912-м, памёр у 1960-х г. Пахаваны ў горадзе Пітсбург.

Зьвесткі, калі ласка, дасылайце на адрас ул. PARGI 5a-25, Kivioli, **EESTI**, 43122 (для Юрася Януковіча).

## АБВЕСТКА

Алеся Сёмуха паведамляе свой новы адрас:
**430 78th St. Ap. 1A**
**Brooklyn, NY 11209**
**Tel. (718) 238-2847**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ПЯТРО ЗЫБАЙЛА 10.X.1911 – 3.X.1998



3-га кастрычніка 1998 году, неспадзявана й спакойна, каля дому, адыйшоў у лепшы сьвет Пятро Зыбайла. Аўтар гэтых радкоў ведаў нябожчыка дзесяткі гадоў як сябру, грамадзкага працаўніка, суседа.

Нарадзіўся П. Зыбайла у в. Яблонка, Косаўскага павету, на Берасьцейшчыне. Бацька ягоны быў лясьніком ды лясьніком стаўся і Пятро.

У 1944 годзе П. Зыбайла падаўся на эміграцыю. Спачатку было жыцьцё ў Нямеччыне, а з 1950 году ў ЗША.

Пачынаць жыцьцё ў Амэрыцы было ня лёгка: 75 цэнтаў на гадзіну, дзесяткі-соткі розных працаў, паступова паднімаючыся да лепшага. Пачынаў Пятро амэрыканскі этап жыцьця ў Нью Ёрку — было шмат землякоў, актыўнае грамадзкае жыцьцё. Пятро Зыбайла быў чалавек грамадзкі. Быў адным зь першых «базаўцаў», дзейны ў БАПЦ, а калі ў сярэдзіне 1950-х гадоў куплялася на 401 Atlantic Ave. царква, П. Зыбайла быў адным зь першых, хто добра прылажыўся, і да купілі будынку і ўладжаньня грамадзка-царкоўнага жыцьця там.

Калі вялікая група парафіянаў пакінула 401 Atlantic Ave., П. Зыбайла быў разам зь імі і зноў стаўся адным зь першых піянэраў пабудовы новае царквы — прыходу ім. Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл, у Нью Ёрку. Пятро Зыбайла быў актыўны ў БАЗА, арганізацыі вэтэранаў, дапамагаў матар'яльна беларускім выдавецтвам.

Калі купляўся Беларускі Цэнтр Адпачынку ў 1963 годзе, ізноў Пётра Зыбайла быў адным зь першых і ў грашовай дапамозе і з працай. У 1974 годзе сям'я Зыбайлаў перабіраецца ў Glenspey, бліжэй Бэлер-Менску, і Пётра літаральна зьвязвае сябе з жыцьцём Бэлеру. Ён увaходзіць і ў Раду дырэктароў, і дапамагае мэнаджэру, і добрым словам дапамае людзям.

Сям'я Пётры і Веры Зыбайлаў была як-бы іншым цэнтрам, куды заходзілі дзесяткі прыяцелеў і незнаёмых за парадай. З адыходам Пётры бязьмерна страціла ягоная спадарыня Вера, а таксама вельмі шмат страціла грамадзтва, царкоўная грамада.

Ад імя прыхаджанаў і Царкоўнай Рады парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл складаю шчырыя спачуваньні сп-ні Веры і дачцы Ані з сям'ёю. Хай будзе сьв. пам. Пётру лёгкай амэрыканская зямля. Вечная памяць.

**Васіль Шчэцька**

## *ГАЛІНА ДЗЯГІЛЕВА Ў НЬЮ-ЁРКУ*



У Беларусі існуе рэдкі арыгінальны тэатар аднаго актора. Стваральнік, кіраўнік і нязьменны выканаўца ўсіх роляў гэтага тэатру — акторка Галіна Дзягілева. Гэта добры прафэсійны тэатар, беларускі ў сваім рэпэртуары й творчасьці. У Беларусі яго добра ведаюць і шануюць асабліва людзі інтэлігентныя, беларускай душы.

У верасьні гэтага году Галіна Дзягілева прыяжджала ў Нью-Ёрк, выступала з урыўкамі са сваіх спэктакляў на 23-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, дзе была вельмі прыхільна й хараша сустрэта гледачамі-удзельнікамі сьвята.

Потым Галіна Дзягілева спатыкалася зь беларусамі ў царкоўнай салі на Атлянтык эвэню ў Рычманд Гіл, дзе чытала беларускія вершы й сыграла некалькі сцэнаў са свайго вядомага спэктаклю «Белы сон» — пра незабыўную Ларысу Геніюш, пра яе жыцьцё, душу й змаганьне.

Сустрэча прайшла вельмі сардэчна й выклікала шмат жывых разважаньняў пра акторскую творчасьць і беларускі тэатар.

**Мар'ян Ванькевіч**

## АХВЯРАВАНЬНІ

### Фінансавая справаздача за лістапад-сьнежань 1998 г.

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| Л. Трусэвіч | 75 |
| В. Кажан | 50 |
| О. Канарчук | 50 |
| П. Алексы | 40 |
| С. Янкоўскі | 40 |
| Л. Бакуновіч | 30 |
| В. Каракулько | 30 |
| Н. Кіт | 30 |
| А. Клімовіч | 30 |
| Е. Маркоўскі | 30 |
| Л. Саковіч | 30 |
| І. Шыбут | 30 |
| В. Заморскі | 20 |
| А. Няпейн | 20 |
| Я. Яновіч | 20 |
| Л. Норык | 70 |
| В. Балтрушэвіч | 60 |
| І. Аўдзей | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| Е. Літаровіч у памяць Івана Аўдзея | 50 |
| Э. Птушка | 50 |
| Б. Русак заміж кветак на магілу П. Кулеша | 50 |
| Б. Русак заміж кветак на магілу Л. Літаровіча | 50 |
| Е. Завістовіч | 40 |
| Н. Ігнатовіч | 30 |
| Ю. Наумчык | 30 |
| В. Пашкевіч | 30 |
| І. Шыбут | 30 |
| С. Шыян | 30 |
| В. Станкевіч | 50 |

### На Выдавецкі Фонд «Беларуса»

| | |
|---|---|
| Я. Юхнавец | 10 |
| В. Салавей | 15 |
| К. і М. Верабей | 20 |
| Надзя Міцкевіч-Клемовіч | кан. дал. 20 |
| Н. і І. Аляксандар | 25 |
| Н. і В. Сьнежка | 25 |
| В. і М. Эфреленкаў | 30 |
| Н. Дудар | 35 |
| Н. Грэбень | 40 |
| А. Машенка | кан. дал. 45 |
| Л. Біленіс і К. Пануцэвіч | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 130 |
| І. Сурвілла | 50 |
| Др. В. Міленцова | 100 |
| У. Акавіты | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| А. Руткевіч | 50 |
| Я. Аршанскі | 50 |
| М. Кастышына | 50 |

Праз сп. У. Акавітага з Аўстраліі:

| | |
|---|---|
| В. Міленцэвіч | 100 |
| У. Акавіты | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| Р. Руткевіч | 50 |
| Я. Оршанскі | 50 |
| М. Костышын | 50 |
| З продажу газэты | 35 |

Прыслалі беспасярэдне ў рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| К. Акула | 40 |
| Ю. Найдзюк | 40 |
| Т. Аўдзей | 100 |
| К. Калоша | 100 |
| В. Мельяновіч | 50 |
| А. Маркевіч | 30 |
| В. і Б. Стус | 50 |
| В. і Г. Махнач | 100 |

### На Выдавецкі Фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва

| | |
|---|---|
| А. Сільвановіч | $100 |
| В. Кажан | 100 |
| Др. У. Набагез | 100 |
| А. Субота | 60 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| К. Акула | 60 |
| В. і З. Кіпель | 150 |
| М. Клакоцкі | 150 |
| М. Швэдзюк | 20 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| Хв. Кажаневіч | анг. ф. 20 |
| У. Пелеса | $50 |
| В. Зайка | 50 |
| М. Латушкін | 30 |

### На помнік і выданьне працаў сьв. пам. Антона Адамовіча

| | |
|---|---|
| М. Швэдзюк | ам. д. 20 |
| М. Віценчык | анг. ф. 10 |
| Л. Урбан | ням. м. 500 |
| Ю. Касьцюкевіч | ам. д. 50 |

### На БелПом:

*US$*

| | |
|---|---|
| В. і М. Пашкевічы | 20 |
| М. Швэдзюк | 20 |
| Я. Юхнавец | 5 |
| С. Міровіч | 100 |
| А. Філістовіч | 50 |
| П. Пікулік | 100 |